Захаркевіч, С. А. [Рецензия] / С. А. Захаркевіч // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 317 – 319. — Полацкі этнаграфічны зборнік / уклад., прадм. і паказ. У. А. Лобача. Вып. 2: Народная проза беларусаў Падзвіння: у 2 ч. Наваполацк, 2011.

Little Brown, 1965; *Eden Ant.* The Memoirs of Anthony Eden. Boston : Houghton Mifflin, 1965.

2. *Mr. X.* The Sources of Soviet Conduct // Foreign Affairs. 1947. № 4. P. 580—581.

3. *Feis H.* The Atomic Bomb and the End of World War. Princeton : Princeton University Press, 1966; Between War and Peace: The Potsdam Conference. Princeton : Princeton University Press, 1960; Churchill, Roosevelt, Stalin. Princeton : Princeton University Press, 1957; From Trust to Terror: The Onset of the Cold War. New York : Norton, 1970; *Mc. Neil, W.* America, Britain and Russia: Their Cooperation and Conflict, 1941—1946. New York : Oxford University Press, 1953.

4. *Alperovitz G.* Atomic Diplomacy: Hiroshima and Potsdam: The Use of the Atomic Bomb and the American Confrontation with Soviet Power. New York : Vintage Books, 1965; *Bernstein B.* Politics and Policies of the Truman Administration. Chicago : Quadrangle Books, 1970; *Fleming D.* The Cold War and its Origins, 1917—1960. 2 vols. Garden City ; New York : Doubleday, 1961; *Gardner L.* Architects of Illusion: Men and Ideas in American Foreign Policy, 1941—1949. Chicago : Quadrangle Books, 1970; *Horowitz D.* The Free World Colossus. New York : Hill and Wang, 1965; *Kolko J. and G.* The Limits of Power. New York : Harper and Row, 1972; *Lafeber W.* America — Russia and The Cold War. 1945—2002. New York : Mc. Graw-Hill, 2002; *Paterson Th.* Cold War Critics: Alternatives to American Foreign Policy in the Truman Administration. Chicago : Quadrangle Books, 1970.

5. *Gaddis J.* The United States and the Origins of the Cold War. New York : Columbia University Press, 1972; *Etheridge D. L.* The Cold War Begins: Soviet-American Conflict over Eastern Europe. Princeton : Princeton University Press, 1974; *Sherwin M. J.* A World Destroyed: The Atomic Bomb and The Grand Alliance. New York : Knopf, 1975; *Lundestad G.* The American Non-Policy towards Eastern Europe, 1943—1947: Universalism in an Area Not of Essential Interest to the United States. Tromso, Norway : Universitetsforlaget, 1978; *Yergin D.* Shattered Peace: the Origins of the Cold War and the National Security State. Boston : Houghton Mifflin, 1977; *Mastny V.* Russia's Road to the Cold War: Diplomacy, Warfare and the Politics of Communism, 1941—1945. New York : Columbia University Press, 1978; *Herring G.* Aid to Russia, 1941—1946: Strategy, Diplomacy, the Origins of the Cold War. New York : Columbia University Press, 1973; *Leffler M. A.* Preponderance of Power: National Security, the Truman Administration and the Cold War. Stanford : Stanford University Press, 1992.

**Е. Н. Космач,** профессор европейской истории Francis Marion University (Флоренс, Южная Каролина, США), кандидат исторических наук, доцент

**ПОЛАЦКІ ЭТНАГРАФІЧНЫ ЗБОРНІК** / уклад., прадм. і паказ. У. А. Лобача. Вып. 2: Народная проза беларусаў Падзвіння: у 2 ч. Наваполацк : ПДУ, 2011. Ч. 1. 292 с.; Ч. 2. 368 с.

Традыцыйная культура Беларусі, якая заўсёды разглядалася як асноўны аб'ект вывучэння айчыннай этналогіі, знікае ў нас на вачах пад уплывам шматлікіх фактараў ад новай хвалі мадэрнізацыі да ўсёмагутнай глабалізацыі. Беларуская этналогія апынулася ў тым становішчы, калі збор палявога этнаграфічнага матэрыялу становіцца адной з самых актуальных задач, ад паспяховага вырашэння якой у пэўнай ступені будзе залежаць і далейшы лёс самой навукі. Ці пойдзе яна за сучаснай культурнай антрапалогіяй амерыканскага кшталту і зоймецца даследаваннем сучаснай гарадской (бо вясковай проста не будзе) культуры праз розныя кагнітыўныя, постмадэрнісцкія ці сімвалічныя парадыгмы і паступова трансфармуецца ў cultural study, ці застанецца маргінальнай рэгіянальнай версіяй, кансерватыўнай постмарксісцкая этналогіяй, якая будзе паступова дэградзіраваць і яе навуковая будучыня ў такім выпадку будзе ў густым тумане неакрэсленасці. Ёсць, сапраўды, яшчэ трэці шлях — пошук уласных мадэлей, цікавых і самабытных «салатаў», якія найбольш адэкватна і эфектыўна дазваляюць прыблізіцца да разумення культуры Беларусі. Гэты няпросты шлях вымагае пэўных высілкаў і (што відавочна) памылак.

Зразумела, што вельмі прываблівым і спакуслівым з'яўляецца пошук сучасных заходніх антрапалагічных канцэпцый, якія можна лёгка прыстасаваць да любога рэгіянальнага палявога этнаграфічнага матэрыялу і стварыць імідж «прагрэсіўнага і знаёмага з апошнімі распрацоўкамі антраполага». Аднак такога кшталту механіцызм стварае знач-

ную пагрозу для развіцця беларускай этналогіі. З другога боку, заўсёды існуе пагроза трансфармацыі здаровага кансерватызму і скептыцызму ва ўсебаковае адмаўленне ўсялякіх запазычанняў, як непатрэбных «роднай» навуцы.

У гэтай сітуацыі стварэнне ўласных беларускіх этналагічных даследчыцкіх праграм можа разглядацца як неабходная для існавання і ўстойлівага развіцця беларускай этналогіі ўмова.

Да канца XX ст. адзіным фактычна цэнтрам этналогіі ў Беларусі з’яўляўся Мінск, у якім былі сканцэнтраваны і навуковыя (Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фалькларыстыкі імя Кандрата Крапівы АН Беларусі) і навучальныя ўстановы (БДУ, БДПА, БДУК). У цяперашні час этналагічны монацэнтрызм паступова пераадольваецца, і зараз мы можам адназначна казаць аб стварэнні гомельскай і полацкай этнаграфічных школ, якія паступова пачынаюць ствараць уласныя палявыя даследчыцкія арэалы.

Адным з самых цікавых і самабытных з’яўляецца Полацкі этнаграфічны цэнтр, які плённа развіваецца пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук, дацэнта У. А. Лобача. Ён з’яўляецца аўтарам вучэбна-метадычных комплексаў па этнаграфіі і этналогіі, сааўтарам слоўніка «Беларуская міфалогія», актыўным палявым даследчыкам, складальнікам першага выпуску «Полацкага этнаграфічнага зборніка», які адразу стаў бібліяграфічнай рэдкасцю.

У гэтым годзе выйшаў другі выпуск «Полацкага этнаграфічнага зборніка», прысвечаны народнай прозе беларусаў Падзвіння. У дзвюх частках на болей чым шасцістах старонках надрукавана каля 1500 аўтэнтычных запісаў палявога матэрыялу з этнаграфічных экспедыцый перыяду 1992—2010 гг. на тэрыторыі Беларускага Падзвіння. Найбольшая колькасць тэкстаў зафіксавана ў цэнтральнай частцы рэгіёна (Лепельскі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Полацкі, Ушацкі і сумежныя з імі раёны). У зборнік таксама былі ўключаны палявыя матэрыялы, запісаныя ад перасяленцаў з Магілёўскай і Гомельскай абласцей, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якія, на думку складальніка, «...даюць магчымасць нагляднага параўнання лакальных форм бытавання народнай традыцыі...» [1, с. 4]. Таксама былі ўключаны некаторыя запісы з гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна Цэнтральнай Беларусі (з поўначы Барысаўшчыны), што маюць тыпалагічнае падабенства з Беларускім Падзвіннем у сферы традыцыйнай культуры [1, с. 5].

Зборнік складаецца з сямнаццаці раздзелаў: у першай частцы — восем; у другой — дзевяць. У першай частцы зборніка ў раздзеле «Казкі» — васямнаццаць запісаў. Казкі зафіксаваны ў розных раёнах і адрозніваюцца сюжэтам, героямі. У раздзеле — «Легенды і паданні» — семдзесят восем запісаў і семдзесят два запісы ў асобным падраздзеле «Падарожны Бог». У раздзеле «Міфалогія» — семдзесят тры запісы пра дамавіка, хлеўніка, русалак, вадзяных, ляснога Кузюльчыка, нячыстую сілу і лізуна. Гэты раздзел, безумоўна, карысны, асабліва для параўнальнага аналізу з традыцыйнай міфалогіяй беларусаў у другой палове XIX — пачатку XX ст., а таксама для вызначэння змены ў міфалагічных уяўленнях беларусаў. Раздзелы «Чорт» і «Зданкі» складаюцца з пяцідзесяці дзевяці запісаў. У раздзеле «Сны» зафіксавана пяцьдзесят два запісы. Гэты раздзел падаецца цікавым з псіхааналітычнага позірку. Дарэчы, у беларускай этналогіі няма даследаванняў, прысвечаных вывучэнню традыцыйных ментальных мадэлей беларусаў праз прызму псіхалагічных, псіхааналітычных і псіхатэрапеўтычных канцэпцый.

Самым вялікім раздзелам першай часткі зборніка стаў раздзел «Тапанімічныя паданні», які складаецца з 381 запісу размоў з інфармантамі. У гэтым раздзеле падаецца цікавая мясцовая інфармацыя аб азёрах, культавых крыніцах, дрэвах, каменнях, гарах, урочышчах, археалагічных помніках, вёсках і храмах.

Другая частка зборніка пачынаецца раздзелам «Чараўнікі і ведзьмы», якая ўключае сто шэсцьдзясят тры запісы. Наступны раздзел «Знахары і знахаркі» складаецца з дзевяноста дзевяці запісаў, прысвечаных розным аспектам традыцыйных знахарскіх ведаў.

У гэтым раздзеле занатаваны не толькі аповесці пра знахароў, але таксама розныя замовы. Напрыклад, ад Залатніка: «...Ішоў Залатнік цераз стары мост, залатым крылом падперазаўшыся, з Розай спаткаўся: Сколькі ў дубе розак, столькі ў залатніку косак, залатнічок-панічок, стань на месьцечку, як у крэсьлечку, не ламі касьці, не сушы крыві» [2, с. 141]. Замова ад грыжы: «...Прачыста Божа Маць. Будзем малому Колю грыжу замаўляць. Грызь, грызі ель з вірха ў карэнь, салодкае ўкушу, а ўжо гаркое прагрызу» [2, с. 124]. Даволі цікавым уяўляецца фіксацыя асаблівасцей і мадэлей паводзін знахароў. Усё гэта дапамагае больш дакладна зразумець гэты вельмі спецыфічны пласт традыцыйнай беларускай культуры.

У раздзеле «Народная медыцына» занатавана восемдзесят два запісы аб лячэнні такіх хвароб, як эпілепсія, зубны боль, каўтун, крактухі, грыжа, укус змяі, курыная слепата, валасень, рожа, упуд і інш. З дапамогай прыведзеных запісаў можна зразумець аб ролі традыцыйнай і фармальнай медыцыны ў грамадстве, адносінах да лекараў, спосабах лячэння, прычынах захворванняў і яшчэ шмат якіх розных аспектаў традыцыйнай медыцыны.

Раздзел «Жывыя і памерлыя» складзены з шасцідзесяці чатырох запісаў і датычыцца ўяўленняў аб звышнатуральным свеце і розных формах адносін да смерці.

Вялікую зацікаўленасць гісторыкаў выклікае сорак адзін запіс раздзела «Вусная гісторыя». У ім заключаны значны аб'ём інфармацыі аб паўсядзённым жыцці беларусаў падчас калектывізацыі, нямецка-фашысцкай акупацыі, адносіны людзей да ўласнай і калектыўнай бяспекі, ацэнка ролі партызан і немцаў, апісанне жыцця ў пасляваенныя гады. Паўсядзённае жыццё вясковых жыхароў падчас калектывізацыі і акупацыі да сённяшняга часу застаецца маладаследаванай праблемай, і полацкі зборнік дае магчымасць пазнаёміцца з успамінамі сучаснікаў гэтых падзей.

Дваццаць адзін успамін зафіксаваны ў раздзеле «Святое і будзённае», пяцьдзясят у раздзеле «Рэлігія, вера і вернікі». Восемдзясят тры запісы ўключаны ў раздзел «Свет такі, які ён ёсць».

Адной з самых цікавых частак другога выпуску «Полацкага этнаграфічнага зборніка» з'яўляюцца «Чужынцы». У васьмідзесяці чатырох запісах зафіксаваны этнічныя вобразы рускіх стараабрадцаў, яўрэяў, татараў, цыганоў, палякаў, латышоў і літоўцаў. Этнаграфічная інфармацыя гэтых запісаў дазваляе стварыць уяўленне аб этнічных стэрэатыпах рускіх стараабраднікаў (маскалі-канакрады...) [с. 336], цыганоў (знахар, махляр) [с. 345—347], яўрэяў (забойцы дзяцей, знахары, добрыя гандляры, хітрыя...) [с. 350—351], латышоў (мудрыя, працавітыя, знахары...) [с. 354—357], літоўцаў (мудрыя, працавітыя...) [с. 357—358], татараў (знахары...) [с. 360—361].

Палявыя матэрыялы з Падзвіння, поліэтнічнага рэгіёна, з'яўляюцца вельмі каштоўнымі для разумення міжэтнічных адносін, вывучэння этнічных стэрэатыпаў, даследавання працэсаў культурнай адаптацыі этнічных меншасцей да беларускай культуры.

Такім чынам, можна дакладна канстатаваць, што навуковая каштоўнасць другога выпуску «Полацкага этнаграфічнага зборніка», безумоўна, вельмі высокая. Уведзены ў навуковы зварот значны корпус этнаграфічных першакрыніц. Калі мець на ўвазе і зборнікі палявых матэрыялаў аб традыцыйнай культуры харчавання беларусаў Палесся «Народная кухня Маталян» і «Народная кухня Тышкаўцоў», выдадзеныя ў выніку прац этнаграфічных экспедыцый кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў БДУ, то можна з ўпэўненасцю гаварыць аб з'яўленні ў айчыннай этналогіі традыцыі друкавання этнаграфічнага палявога матэрыялу, які можа шырока і плённа выкарыстоўвацца ў далейшых этналагічных і гістарычных даследаваннях.

**С. А. Захаркевіч,** дацэнт кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук